# Ніва

ISSN 0546—1960
ІНДЭКС 36671

БЕЛАРУСКІ ГРАМАДСКА-КУЛЬТУРНЫ ТЫДНЁВІК

№ 10 (1712) ГОД XXXIV БЕЛАСТОК 5 САКАВІКА 1989 г. ЦАНА 40 зл.




*Самая апошняя падзея — II Вальны сойм нефармальных суполак у Вільні.*

## ГАЛАСЫ БЕЛАРУСІ: „ТАЛАКА"

У першай палове лютага Беласточчыну наведалі двое маладых людзей: Сяржук Вітушка, студэнт гістарычнага факультэта, і Алеся Сёмуха, студэнтка філалагічнага факультэта. Абое з Мінска. З мінскай „Талакі". Прыехалі пабачыць, як жывуць-маюцца амаль міфалагічныя для іх да гэтай пары беластоцкія беларусы. Гэта было іхняе першае „замежнае" падарожжа. Будзем спадзявацца — не апошняе. Перад усім спатыкаліся і знаёміліся з маладымі: беларускімі студэнтамі ў Беластоку і „на эміграцыі" — у Варшаве. Знайшлі таксама час, каб зірнуць вокам на „абарыгенаў" і перакінуцца словам з дзядзькамі і цёткамі недзе пад Гайнаўкай ці Гарадком. І ўрэшце здолелі яшчэ пабываць на дакладзе доктара Юрыя Туронка ў Народным універсітэце, у пятніцу 10 лютага, у клубе ГП БГКТ у Беластоку. І самі расказалі нам пра тое, чым жыве і жыцьме Беларусь. За гэта вялікае ім дзякуй. Хочам, каб і чытачы „Нівы", якіх там не было, пачулі іхняе слова і як мы, што там былі, дзіву даліся, як заблытаны наш шлях да таго, каб людзьмі звацца. Пераказ гутаркі даецца паводле магнітафоннага запісу. Пунктуацыя і непазбежныя скарачэнні — нашыя, змест і дух — іхнія, та‿акоўскія.

**Яп Максімюк**

**Сяржук Вітушка:** — Пачну з таго, што я прадстаўляю той рух, адраджэнскі рух, які сёння разгортваецца на Беларусі. Ён, прыемна адзначыць, узняўся на новую якасную прыступку. Узнікла многа разнастайных маладзёжных арганізацый, арганізацый нефармальных, гэта значыць не падлягаючых дыктату нейкіх урадавых ці партыйных установ і камітэтаў. Яны ўзнікаюць на самых розных накірунках: аховы помнікаў, экалагічных праблем, аховы мовы, ратавання фальклору, рок-музыкі. У гэтым я бачу праяву вялікай моцы таго новага маладзёжнага руху: ён антыманапольны. Сёння гэта яшчэ даволі кволы рух, перш за ўсё культурнага характару, але з кожным днём ён мае тэндэнцыю палітызавацца. Напрыклад, стваралочы Арганізацыйны камітэт Народнага фронту „Адраджэнне" ці арганізацыю „Мартыралог Беларусі". Ва ўсім гэтым нашы бюракратычныя структуры ўгледзелі смяротную небяспеку. Ну, і сапраўды, калі паяўляюцца людзі з самастойнай думкаю, то гэта ўжо парасткі будучых палітычных структур. Сёння маем падставы да таго, каб меркаваць, што вырастуць з іх выразныя палітычныя структуры, якія будуць імкнуцца да ідэалу. Гэты ідэал таксама крышталізуецца і пашыраецца: ідэал вольнай і незалежнай Беларусі, развітай ва ўсіх адносінах, культурных, эканамічных і духоўных. Думаю, што ёсць надзея на поспех. Песімісты гавораць, маўляў, ужо і мову так занядбалі, і народ не гаворыць па-беларуску, усе помнікі ўжо страчаны. Але гэта — духоўнае лайдацтва. (...)

Наш клуб „Талака" ўзнік у 1985 годзе, як толькі-толькі пачалася перабудова, узнік як клуб аховы помнікаў. Ва ўсёй Беларусі сітуацыя адрозніваецца ад Польшчы, вам тут цяжка будзе зразумець. У Польшчы шануюць старасвеччыну, шануюць перш за ўсё святыні, ды і астатнія ўсе будынкі. У нас адваротны працэс. Наша таталітарная сістэма не была зацікаўлена ў захаванні гістарычнай свядомасці і метадычна вынішчала помнікі, каб яны не нагадвалі народу пра ягоную веліч, ягоную славу і ягоную мінуўшчыну. Сорамна, калі хтосьці прыедзе ў Мінск, а я не змагу яго правесці па гораду, так як сёння хлопцы вадзілі нас па Варшаве ці вось тут па Беластоку.

Наш клуб узнік як нармальная, здаровая рэакцыя: трэба ратаваць помнікі. І каб нас не абвінавачвалі ў гарлапанстве, а ў нас бюракратыя такое любіць,

(Працяг на стар. 6)

## КІРАЎНІК І ГАСПАДЫНЯ

**Аўрора:** — У Нараўцы існуе Кааператыў сялянскіх і прадукцыйных паслуг. У яго саставе два пункты механізацыйных паслуг (ПУМ): у Нараўцы і Семяноўцы. Цяпер кіраўніком семяноўскага ПУМа з'яўляецеся вы, Анна Засім. Колькі год працуеце на кіраўнічай пасадзе?

**Анна Засім:** — Ужо чацверты год. Я закончыла сельскагаспадарчы тэхнікум. У Семяноўскім ПУМе пачала працаваць у 1981 годзе рэферэнтам да спраў разліку і фактуравання.

**А.:** — Не ведаю, як вы даеце сабе рады ў штодзённым жыцці! Я летам няраз бачыла, што вы ад'язджаеце дадому каля гадзіны $21^{00}$. А дома ж таксама шмат работы! Ці лёгка жанчыне быць кіраўніком і гаспадыняй?

**А. З.:** — Так, падчас напружаных сялянскіх кампаній, а асабліва ў жніво, цяжка паладзіць працу з хатнімі і сямейнымі абавязкамі. Цвёрдая рэчаіснасць прымушае да ахвяр. Кіраваць мужчынскім калектывам — нялёгкі занятак, але затое гэты калектыў стабільны, са шматгадовым вопытам і адпаведнымі кваліфікацыямі. Да цяжэйшых кампаній належыць уборачная, асабліва камбайнавыя паслугі, на якія штогод расце патраба-



ванне. Няраз здараюцца канфлікты, у такіх сітуацыях патрэбна мая асабістая інтэрвенцыя. Многа таксама клопатаў праз аварыі і не надта спрыяльную пагоду. Летам ніхто не лічыцца з часам працы.

**А.:** — Хто займаецца дзецьмі, калі вы працуеце?

**А. З.:** — У мяне іх двое, 10-гадовы хлопец і дзяўчынка 6 га-

(Працяг на стар. 4)

# АМЕРЫКА, ЯКАЯ ТЫ?



## АМЕРЫКАНСКІЯ БЕЛАРУСЫ (5)

Сярод амерыканскіх беларусаў, з якімі звёў мяне лёс у 1981 годзе, быў родны брат Якуба Коласа Міхась Міцкевіч, якому прысвяціў я два адрэзкі ў сваіх „Амерыканскіх былях“, друкаваных у „Ніве“ ў 1982 годзе. Сёння я хацеў бы напомніць, што Міхась Міцкевіч не заснаваў сваёй уласнай сям'і ў Амерыцы і жыве разам з сям'ёй роднага сына сваёй роднай сястры Міхаліны — Алесем Міцкевічам. Прызнаюся, што не ўсе факты, звязаныя з маім візітам у сям'і Тэрэсы і Алеся Міцкевічаў, змясціў я ў рэпартажы з 1982 года. Між іншым, не сказаў аб тым, што пані Тэрэса, праводзячы мяне, калі я ўжо адыйшоў метраў 15 ад хаты Міцкевічаў, крыкнула: „Жыды чакалі дзве тысячы гадоў сваёй незалежнасці, пачакаем і мы!“ Прапусціў я таксама некаторыя з выказванняў Міхася Міцкевіча, якія адносіліся да прыезду Якуба Коласа з Мінска ў родную хату, калі Заходняя Беларусь была ў верасні 1939 года далучана да БССР.

Я быў упэўнены, што гэтым разам зноў наведаю Міцкевічаў і што пагутару з братам Якуба Коласа. Так аднак не сталася. Алесь Міцкевіч — чалавек выключнай гасціннасці, які адыгрывае вельмі важную ролю ў беларускім эміграцыйным жыцці, — на гэты раз не запрасіў мяне ў свой дом, хаця і бачыліся мы з ім два разы. А прычына гэтаму вельмі простая — стан здароўя Міхася Міцкевіча. Яму сёння за дзевяноста гадоў. Фізічна і духоўна адчувае ён сябе дрэнна. Каму ж з блізкіх ахвота чалавека ў такім стане паказваць чужым?! А што датычыць Алеся Міцкевіча, дык цікавіцца ён жыццём беларусаў і ў БССР, і ў Польшчы і многа аб гэтым жыцці ведае.

Чуццё мне падказвае, што ўжо болей не пабачу апошняга брата Якуба Коласа — Міхася Міцкевіча. Аднак ад усёй душы жадаю яму як найдаўжэйшай прысутнасці на гэтай зямлі.

Сярод канстэляцыі амерыканскіх беларусаў моцна ззяе зорка Вітаўта Кіпеля. Я пісаў аб лішняй гаварлівасці многіх амерыканскіх беларусаў. Вітаўт Кіпель з'яўляецца свайго роду сімвалам чагосьці зусім адваротнага — лаканізму. Калі ў яго прысутнасці паяўляецца чалавек, які многа гаворыць, вельмі хутка сустракаецца з Вітаўтавай рыпостай: канкрэтнасць і дзелавітасць вызначае не толькі стыль яго гутаркі, але, мабыць, і стыль яго жыцця. Ад многіх беларусаў чуў я, што з'яўляецца ён дасканалым арганізатарам культурных мерапрыемстваў. Жыццё яго не было лёгкім. Калі было яму тры гады, яго бацька быў арыштаваны як нацдэм і высланы ў глыбіню Расіі. Апынуўшыся на Захадзе, настойліва вучыўся ў Заходняй Германіі і Бельгіі. Каларытна расказвае аб тагачасных беларускіх студэнтах, якія, нягледзячы на выключна цяжкія пасляваенныя ўмовы, вельмі актыўна дзейнічалі на ніве беларускай культуры. Вітаўт Кіпель у 1955 годзе абараніў доктарскую дысертацыю па мінералогіі. Аднак не закахаўся ў чужой зямлі. Пацягнула яго ў бок роднай культуры. Пераехаўшы ў Амерыку, закончыў бібліятэчны факультэт у адным з амерыканскіх універсітэтаў і пачаў працаваць у Нью-йоркскай публічнай бібліятэцы. Тое, што сёння гэта бібліятэка мае найбагацейшы беларускі аддзел ва ўсёй Амерыцы, — несумненная заслуга Вітаўта Кіпеля, які нястомна збіраў беларускія кніжкі. Вітаўт К. вядомы не толькі як бібліятэкар і дзеяч, але таксама як публіцыст і даследчык. Асабліва многа ўвагі прысвяціў ён лёсам беларусаў у Амерыцы. Апублікаваў такія даследаванні, як: „Беларусы ў штаце Мэрыленд“ (1974), „Беларусы на Гаваях“ (1975), „Беларусы ў штаце Нью-Джэрсі“ (1978), „Беларусы ў горадзе Кліўлендзе“ (1982), „Беларусы ў Нью-Йорку“ (1988). Наватарскі характар маюць працы, напісаныя разам з жонкай Зорай Кіпель: „Беларускі характар у Амерыцы“ (1983), „Беларуская літаратура ў англійскіх перакладах“ (1977), „Беларусіка ў англійскай мове“ (1982). У суме апублікаваў Вітаўт Кіпель каля сотні работ, прысвечаных розным аспектам жыцця беларускай эміграцыі. Многія даследаванні Вітаўта Кіпеля апублікаваны на англійскай мове, дзякуючы чаму веды аб беларускай эміграцыі даходзяць да шырокіх колаў амерыканскага грамадства.

Вітаўт Кіпель адзначаецца паслядоўнасцю, лагічнасцю, дзелавітасцю, прагматызмам і тое, што я ўжо пісаў, камп'ютэрнасцю мыслення. Камп'ютэрнасць, якая не абазначае непрысутнасці ў яго паставе эмацыянальнасці і пачуццёвасці, накіраваных у глыбіню беларускасці.

Пры гэтым ён чалавек вясёлы і любіць кампанію. Калі вып'е чарку, абавязкова зацягне песню:

„Пасеяла агурочкі над быстрай вадою,
Паліваць іх буду дробнаю слязою“.

І ў яе інтанацыі чуецца глыбокая настальгія па Беларусі.

**Алесь Барскі**

---

# З ДРУКУ

## ЧУЖАПАЛЯКІ

**Пад такім загалоўкам Э. Кужава апублікаваў у „*Gazeta Młodych*“ ад 9 снежня 1988 г. свае разважанні „*Cudzo-Polacy*“. Гэты пазнанец па сваім паходжанні на дзіва самакрытычна аналізуе нацыяналізм свайго народа, сітуацыю сцяны паміж палякамі і нацыянальнымі меншасцямі, якім лёс наканаваў жыць у польскай дзяржаве.**

**Той жа псіха-культурны механізм правінцыі і шляхецкага засценка прычыніў немалую нацыянальную трагедыю для Польшчы, калі звыш мільёна насельніцтва польскага паходжання, якое ўцалела ад германізацыйных націскаў у Прусіі і над Одраю, пасля вайны перарабілі на немцаў і — фактычна — выгналі ў Заходнюю Нямеччыну. Кужава называе гэта ганебным балансам гісторыі Польшчы.**

**У снежні таксама вядомы фельетаніст Ежы Вальдорф, — як і Кужава, з Пазнаншчыны родам, — змясціў у тыднёвіку „Палітыка“ ад 24 снежня (ці не спецыяльна ў калядным нумары?) разважанні пра польска-літоўскія сувязі з нагоды ўтварэння Усяпольскага клуба сяброў Літвы, які, між іншым, намераны ўвесці навучанне літоўскай мовы ў адной з варшаўскіх сярэдніх школаў. Вальдорф ідзе яшчэ далей — у гмінах з літоўскім насельніцтвам на Сувальшчыне неабходна ўзняць літоўскую мову да рангу афіцыйнай, нароўні з польскай там. Тутэйшыя дзеці палякаў павінны абавязкова вывучаць літоўскую мову, калі мае быць дружба не ў газетах і прамовах, а ў рэальным жыцці.**

**І трэцяя публікацыя — п'еса польскага драматурга Тадэвуша Слабадзянка „Car Mikołaj“, якой адкрываецца пяты нумар тэатральнага часопіса „Dialog“. Рэч пра заходнебеларускі рух у даваенні, ягоную разгубленасць ды сірочасць, слабасільнасць. П'есу ўжо паставілі ў Варшаве, прэм'ера адбылася ў пераднавагоднюю дэкаду. Кажуць, не вельмі каб з поспехам... (ся)**

Так можа рэагаваць жыхар Беласточчыны польскага паходжання, бескрытычна прачытаўшы ўзнагароджаны (III месца) у конкурсе „Крэсы даўней і сёння“ тэкст Казімежа Семянякі „Пад рознымі крыжамі“. Чаму мог бы служыць гэты вылучаны „твор“? Паяднанню хрысціянскіх веравызнанняў, наладжванню сувязей польскага і беларускага грамадстваў, ці іх расколу? Шкада, што ні аўтар, ні камісія конкурсу не паясніла гэтага ва ўступным слове. Можна было б ігнараваць гэтую публікацыю так, як і многія іншыя ў гэтым духу, змешчаных на старонках беластоцкіх публікатараў, але па некалькіх прычынах нельга да яе адносіцца раўнадушна.

Аўтар не першы раз ломіць усе прынцыпы элементарнай добрасумленнасці ў прадстаўленні і інтэрпрэтацыі гістарычных фактаў (а, пэўна, гэта аплочваецца пану Семяняку, як бачым па атрыманай узнагародзе!). Публікацыя такога тэксту, несумненна, будзе мець уплыў на фармаванне польска-беларускіх адносін на Беласточчыне, асабліва таму, што нашая вячорка „Кур'ер падляшскі“ — газета вельмі папулярная ў беластоцкім асяроддзі. Гэта не першы артыкул на тэму „польскіх крэсаў“, які нічога не паясняе, а выклікае нездаровую атмасферу.

Аўтар пагардліва адносіцца да ўсяго, што беларускае. Кожную праяву нацыянальнага жыцця беларусаў разглядае ў катэгорыях пагрозы для польскага быту. Падзеі з мінулага прадстаўляе ў форме сенсацый і адкрыццяў, часта распаўсюджвае міфы, погляды, у якіх няма нічога супольнага з гістарычнай праўдай.

К. Семяняка папракае беларусаў, што пакідаюць вёскі. Шкада, што бойкі адкрывальнік гэтай з'явы не ведае, што гэты працэс ахоплівае цэлую краіну. Праўда, што ўсходняя Беласточчына безлюдзее найхутчэй, але гэта вынік занядбанняў з боку ваяводскіх улад. Аўтар твора знайшоў беларусаў, якія ўцяклі з вёскі, у ваяводскіх партыйных і дзяржаўных уладах. Гэта яны, паводле яго, будавалі беластоцкі сацыялізм. Праўда, што беларусы бралі актыўны ўдзел у грамадска-палітычных пераменах пасля 1944 года. Узважыўшы, што складалі яны палавіну насельніцтва ваяводства, іх удзел у міліцыі, партыйных і дзяржаўных органах зразумелы. Сувязі беларусаў з новай уладай спрыяла многа фактаў, між іншым, тэрор польскага падполля. Пацыфікацыю Залешан і іншых

## ZNOW Białorusini!

беларускіх вёсак нічым не выкрэслім з навейшай гісторыі рэгіёна. Абсалютным спрашчэннем з'яўляецца звальванне выключнай віны на беларусаў за праследаванне дзеячоў падполля. Хопіць толькі азнаёміцца з кіраўнічым саставам органаў бяспекі і міліцыі, каб прызнаць гэтыя факты беспадстаўнымі.

Трэба пры гэтым улічыць факт, што асобы беларускага паходжання, з беларускімі прозвішчамі і іменамі, якія дайшлі да якіх-небудзь высокіх пасад, цалкавіта парывалі са сваім народам. Як неафіты станавіліся найбольш заядлымі абаронцамі польскасці. Працэс гэты працягваецца да гэтай пары. Я часта ў Варшаве чуў, што „ў Беластоку правяць беларусы“. Які ж абсурд! Я не ведаю, ці ў цяперашніх адміністрацыйных і палітычных уладах ваяводства знойдзецца хаця дзесяць асоб, якія пацвердзяць сваю прыналежнасць да беларускага народа. Сёння ўжыванне крытэрый прозвішча ці веравызнання разыходзіцца з ісцінай. Калі такі крытэрый прапануецца, сённяшнія сыны і ўнукі беларусаў станоўча пратэстуюць („Кантрасты“ № 11/1988, с. 44-45).

Наступным адкрыццём К. Семянякі ёсць паказанне беларусаў, якія віталі ў верасні 1939 года Чырвоную Армію.

Чаму яны мелі гэтага не рабіць, калі так жа сустракалі яе і іншыя нацыі (палякі, яўрэі). Хачу аўтару артыкула ўспомніць, што ў Ломжынскім ваяводстве не было беларусаў, а прывітальныя брамы ж — былі. Міфам таксама з'яўляецца абвінавачванне беларусаў у тым, што яны якраз былі прычынай вывазу палякаў у Сібір у гадах 1939-1941. Беларусь у час улады Сталіна сама патраціла чацвёртую частку свайго насельніцтва! Гэта найлепшы доказ, што трагедыя гэтая не мінула і іх. Ніхто з беларусаў не абвінавачвае палякаў у садзейнічанні злачынствам, хаця НКВД доўгі час знаходзілася пад „польскім кіраўніцтвам“ (Ф. Дзяржынскі, В. Мэнжынскі, Т. Ягода).

К. Семяняка здзіўляецца, што праваслаўныя „вышмыгвалі ціхцам у царкву“. Шкада, што не намогся сказаць, чаму яны гэта рабілі. Можа, прымусіла іх да гэтага „талерантнасць“ аўтара і яго сяброў у сілу лозунга „Bij Ruska“?! Тая ж памяркоўнасць наказвае К. Семяняку выказваць неадабрэнне аб'явам, у якіх

(Працяг на стар. 8)

## Наша пошта

**Паважаная рэдакцыя!**

Чытаць ваш тыднёвік я пачаў недзе ў пачатку 70-х гадоў. Я тады вучыўся ў Беларускім дзяржаўным універсітэце. Хоць мае бацькі заўсёды гаварылі па-беларуску, я скончыў школу з рускай мовай навучання і па-беларуску амаль не ўмеў чытаць. Давялося пачынаць са слоўніка. Праз хуткі час я ўжо чытаў мастацкія творы без слоўніка. Мае сябры таксама цікавяцца беларускай культурай. Паверце, гэта было не так лёгка ў апошнія 10-15 гадоў. Але зараз ідзе адраджэнне нацыянальнай свядомасці беларусаў, і я бачу, што не памыліўся, калі рабіў выбар тады.

У гэтым годзе я атрымаў магчымасць падпісацца на „Ніву“, і вось цяпер кожную нядзелю паштальён прыносіць мне чарговы нумар. Дарэчы, газета спазняецца роўна на тыдзень. Лічу, што „Ніва“ ўзбагачае кожнага чытача, які жыве ў БССР. Заўважыў, што тыраж штотыднёвіка ўзрос у параўнанні з 1988 годам. І гэта пры тым, што „Ніва“ не была ўключана ў каталог падпісных выданняў. Я, напрыклад, даведаўся аб ёй з газеты „Советская Белоруссия“ (калі не памыляюся). Спадзяюся, што гэта не апошні мой ліст у вашу рэдакцыю.

Дарэчы, я жадаю ахвяраваць што змагу на пабудову Музея помнікаў беларускай культуры і рэвалюцыйнага руху ў Гайнаўцы. У спісе ахвяравальнікаў (№ 3 „Нівы“) бачыў прозвішчы з Мінска. Магчыма, гэта тыя, што былі ў Польшчы ў якасці турыстаў? Бо я чуў, што нам забараняецца пасылаць грошы ў рублях за мяжу. Калі ласка, дайце тлумачэнне, магчыма праз газету.

**Віктар Корбут, Мінск**

**Ад рэдакцыі:** Грамадскі камітэт пабудовы музея ў Гайнаўцы адкрыў таксама банкавы рахунак, на які прымаюцца ахвяраванні ў рублях. Як нам вядома, пераслаць рублі грамадзянам СССР справа няпростая, аднак некаторыя асобы дабіваюцца ў фінансавых улад дазволу на перавод рублёў на рахунак Гайнаўскага музея. Найчасцей уплаты ад жыхароў БССР паступаюць ад асоб, якія наведваюць Польшчу. Агульнага вырашэння гэтага пытання пакуль што няма, хаця ў адрас улад ставяцца патрабаванні даць беларусам у СССР магчымасць дапамагаць фінансава ў пабудове Беларускага музея ў Гайнаўцы. Гаварыў аб гэтым таксама і Міхаіл Савіцкі, старшыня Прэзідыума Беларускага таварыства „Радзіма“ ў інтэрв'ю для тыднёвіка „Голас Радзімы“ (№ 3 ад 19 студзеня 1989 г.).

**Дарагая рэдакцыя!**

Як толькі з'явіўся ў продажы тыднёвік „Ніва“, ён адразу стаў папулярны ў горадзе. Напрыклад, для сябе я адкрыў, што ў Польшчы ёсць столькі беларусаў і розных грамадскіх аргані-

**(Праця на стар. 11)**

## Свойскія малюнкі



*Леснічоўка ў Беластоцкім музеі вёскі. Мал. У. Петрука.*

## Удзельнік беларускай гісторыі

Дзядзька Уладзімір Харкевіч жыве ў Міхнаўцы, вёсцы пад Нараўкай, у Белавежскай пушчы. Усё сваё доўгае і багатае жыццё ён пражыў тут. Ад Пакровы яму пайшоў 86 год. Помніць дзядзька і іншую Пакрову ў сваім жыцці. Яго расказ і пачынаецца ад тае даўнейшай Пакровы: „На Пакрову дваццаць шостага года мяне ўзялі ў войска, а перад Калядамі арыштавалі і завязлі ў Вільню на Лукішкі. Адтуль мы ў газеце перадалі запіску сваім на волю, што арыштаваны і сядзяць на Лукішках нашы паслы Тарашкевіч, Валошын, Рак-Міхайлоўскі. У дваццаць сёмым годзе многа нас, беларусаў,назбіралі і асадзілі ў астрозе. 2 лютага 1928 года пачаўся суд. Судзілі „Грамаду“ — 56 чалавек. Мяне судзілі разам з нашымі пасламі. Помню, была сярод нас адна жанчына — Клаўдзя Гоцька з Ашмянаў. Нас бараніў Дурач. Так, быў гурток „Грамады“ ў Міхнаўцы. Нас было ў ім 16 членаў. Я быў старшынёй, а Дзямян Казлоўскі сакратаром. А ў працэсе „Грамады“ засудзілі 37 чалавек, а 19-ці не даказалі віну і звольнілі. Мне далі 5 год. Перавезлі ў Пётркуў-Трыбунальскі ў турму. У 1930 годзе я з тае турмы выйшаў па амністыі. Але ў 1933 зноў арыштавалі мяне, бо мы сваёй работы не кідалі. Гэтым разам трымалі ў Ваўкавыску 7 месяцаў і, не даказаўшы нам віну, звольнілі. А трэці раз арыштавалі 27-га сакавіка 39 года і завезлі ў Картуз-Бярозу. Там я прасядзеў да 18 верасня і адтуль мы выйшлі, калі ўжо ўсе пільнуючыя нас паўцякалі“.

Дзядзька Валодзя быў актыўным дзеячом і членам КПЗБ і „Грамады“. Ён і цяпер з бліскучымі вачыма расказвае нам: „О, у Гарадку быў вялікі беларускі рух. І ў Ваўкавыску вельмі добра ішла наша работа. Таксама ва ўсім Слонімскім павеце. Мы ездзілі, сустракаліся, сходы рабілі над Шчарай — прыгожая рэчка...“

Пры савецкай уладзе дзядзька працаваў у сельпо ў Луцэ а ад мая 1941 года яго мабілізавалі ў Чырвоную Армію. Стаяў на граніцы каля Кольна. І быў дзяжурным у тую ноч, калі пачалася вайна гітлераўскай Германіі з Савецкім Саюзам. Калі я дапытвалася ў дзядзькі, калі яму ў жыцці было найстрашней, ці пры арыштах да вайны, ці ў вайну, ці калі немцы паставілі яго пад расстрэл, ці калі банда Лапашкі (так дзядзька вымаўляе „Лупашку“) палявала на яго, а адзін раз нават заглядалі і свяцілі па бульбе ў склепе пад падлогаю, а ён жа там у куточку, за бульбай, сядзеў ён, задумаўшыся, сказаў: „найстрашней было як тыя немцы прыйшлі... то быў кашмар“.

Пасля вайны некалькі гадоў дзядзька быў войтам у гэтай

## Кіраўнік і гаспадыня

**(Праця са стар. 1)**

доў. Калі я працую, займаюцца імі бацькі мужа, якія жывуць па-суседску.

**А.:** — Ці ваш муж не зайздросціць вам, што вы — кіраўнік, а ён — трактарыст?

**А. З.:** — Не, мой муж задаволены, што я займаюся адказнай працай і стараецца добрай працай і паставай дапамагаць у рэалізацыі нялёгкіх задач.

**А.:** — Колькі ў вас працаўнікоў?

**А. З.:** — 7 трактарыстаў, 1 механік і 3 сторажы. Я мушу хаця б пералічыць прозвішчы гэтых дасканалых працаўнікоў. Гэта трактарысты: Лявон Суліма, Анатоль Засім, Юрка Семяняка, Юрка Матысюк, Міхал Дунец, Мікалай Шыманюк і Станіслаў Скепка. Механікам з'яўляецца Мікалай Сухадола, сторажамі — Ірэна Шыманюк, Юрка Кіслы і Мікалай Засім.

**А.:** Памятаю, што шмат гадоў Коля Сухадола працаваў трактарыстам. Цяпер ён механік, і нават вельмі добры, бо як я заўважыла, нядоўга стаяць сапсаваныя машыны. Як гэта ёсць, што адзін механік усё паспее зрабіць?

**А. З.:** — Сухадола ўжо больш дзесяці гадоў працуе механікам. Ён вельмі стараецца. Сам усяго не зрабіў бы, дапамагаюць яму трактарысты. Дзякуючы гэтаму скарачаюцца прастоі. У нашым ПУМе два камбайны „бізон“, сем трактараў, дзве „талежоўкі“, культыватар, два рассявачы штучных угнаенняў, чатыры плугі, дзве ратацыйныя касілкі, сеўнік, раскідальнік угнаення, капалка-грузавік, глебагрызарка, шэсць трактарных прычэпаў, капалка. Усе трактары тэхнічна спраўныя, але карыстаемся мы імі ўжо каля дзесяці год. Камбайны новыя і спраўныя, адзін працаваў два сезоны, другі — адзін.

**А.:** — Якія ў 1988 годзе былі цэны паслуг за апырскванне, за касьбу і жніво? Ці гэтыя цэны не былі завысокія?

**А. З.:** — Да ўсіх паслуг, упамянутых у пытанні, была ў 1988 годзе датацыя, і таму апырскванне каштавала селяніну 1240 зл. за гектар без коштаў хімікатаў, а касьба ратацыйнай касілкай — 1950 злотых за гадзіну працы, камбайнам — 11400 зл. за гадзіну. Цэны гэтых паслуг былі вылічаны толькі да ўзроўню коштаў або з мінімальным прыбыткам.

**А.:** — Што вы робіце са старымі, непатрэбнымі машынамі? Аддаеце іх на лом?

**А. З.:** — Не, гэткія машыны, пасля агледзін экспертаў, прадаем на аўкцыёне.

**А.:** — Ведаю, што сюды за паслугамі прыязджаюць сяляне з Масева, Міхнаўкі і Лясной, а іх жа рэгіён належыць да ПУМа ў Нараўцы. Ці нараўчанскія трактарысты не спраўляюцца са сваімі абавязкамі?

**А. З.:** — Нашы трактарысты і камбайнеры працуюць салідна, а сяляне гэтага патрабуюць. У ПУМе Нараўка працуюць пераважна маладыя людзі, якія часта адыходзяць з розных прычын. У мінулых гадах у летні сезон трактарыст мог зарабіць каля 50 тысяч злотых, калі былі звышурочныя гадзіны, а так то зараблялі яны ад 30 да 40 тысяч злотых. Кожны водпуск выкарыстоўваюць зімой, бо летам шмат працы. З пачаткам гэтага года заробкі трактарыстаў вырастуць у сярэднім на 30 тысяч.

**А.:** — Чым займаюцца трактарысты зімою?

**А. З.:** — Рамантуюць машыны, выконваюць транспартныя паслугі. У канцы мінулага года зрабілі спартыўную пляцоўку для семяноўскай школы, дарогу да сметніка ў Семяноўцы, цяпер

# БЕЛАРУСКАЕ ТАВАРЫСТВА Ў МАСКВЕ

**Беларусы — жыхары Масквы — заснавалі нядаўна Маскоўскае таварыства беларускай культуры імя Францішка Скарыны. Мэта арганізацыі прывіваць сярод беларусаў (іх у сталіцы СССР каля 60 тысяч) любоў да роднай мовы, пазнаваць культуру, гісторыю Беларусі, яе многавяковыя сувязі з народамі Расіі, Украіны, Прыбалтыкі, Польшчы, з іншымі краінамі славянскага і агульнаеўрапейскага арэала. Таварыства будзе імкнуцца да замацоўвання духоўных сувязей сваіх членаў з Беларускай ССР, усім беларускім этнасам, будзе супрацоўнічаць з творчымі, навуковымі, грамадскімі арганізацыямі БССР.**

**У праграме дзейнасці прадбачаны — курсы, гурткі, класы беларускай мовы, народны універсітэт гісторыі Беларусі, распаўсюджванне беларускай кнігі і перыёдыкі, розныя пачынанні навуковага і культурна-мастацкага характару, а таксама выпуска перыядычнага выдання. Асаблівай увагі заслугоўваюць многія мемарыяльныя і памятныя месцы ў Маскве і ваколіцы, звязаныя з выдатнымі падзеямі і асобамі з гісторыі Беларусі і руска-беларускага братэрства. У розны час тут жылі і працавалі: класік беларускай літаратуры Янка Купала, заснавальнікі і першыя кіраўнікі Савецкай Беларусі Зміцер Жылуновіч і Аляксандр Чарвякоў, вядомы беларускі савецкі гісторык Мікалай Улашчык.**

**Стварэнне беларускага культурнага таварыства ў Маскве гэта яшчэ адна прыкмета духоўнага абнаўлення ў Савецкім Саюзе.**

**Адрас таварыства: Москва, Трубниковский переулок, 30-а, рэдакцыя часопіса „Советское славяноведение“**

*(„Вечерняя Москва, 4.01.1989 г.)*

---

гміне. Месяц перад тым, як выбралі войтам, тая ж банда Лупашкі забіла папярэдняга войта.

У дзядзькі шэсць дочак, сынок памёр у год часу. А дочкі павырасталі і раз'ехаліся: адна працуе лекарам у Варшаве; дзве — настаўніцамі: у Чыжах і ў Гайнаўцы, адна на гаспадарцы ў Савіным Грудзе, адна медсястрой у Лодзі, адна ў Беластоку. У гэтай апошняй дзядзька зіму зімуе, бо „цяжкавата, — кажа, — аднаму там у хаце на вёсцы“. Дык авечак аддаў на зіму суседу, а сам прыехаў у Беласток. „Але як толькі вясна прыйдзе, паеду назад, тут няма чаго рабіць“.



У пятніцу заходзіць дзядзька да нас у рэдакцыю — пачытаць „Ніву“. Ён мае падпіску на нашу газету на цэлы год, але тая „Ніва“ ідзе яму ў Міхнаўку. А дзядзька не хоча расставацца з „Нівай“ нават на месяц. І так завялася наша дружба з Уладзімірам Харкевічам.

Яшчэ хачу сказаць, што Уладзімір Харкевіч — адзін з апошніх, што яшчэ жывуць, дзеячоў бурлівага беларускага нацыянальнага руху ў Заходняй Беларусі 20—30-ых гадоў.

**Вера Валкавыцкая**
**Фота Я. Чэрнякевіч**

---

дапамагаем рабіць дарогу ў Крыніцу.

**А.:** — Гаражы і майстэрні ў вас старыя, памяшканне для кіраўніка — у старым баракавозе, сацыяльнае памяшканне трактарыстаў — у старым вагоне. Ці кааператыў у Нараўцы не мог бы дапамагчы вам у пабудове бюро, гаражоў і майстэрняў?

**А. З.:** — Справа пабудовы новай базы ў Семяноўцы многа разоў абмяркоўвалася на розных нарадах. Вызначаны нават пляц на новым месцы, а гэта абазначае пабудову ўсіх аб'ектаў ад падставы. Рэалізацыя гэтай інвестыцыі, нягледзячы на высокія прыбыткі кааператыва ў Нараўцы, перарастае цяперашнія фінансавыя магчымасці і звязана з недахопам патрэбных матэрыялаў і прылад.

**А.:** — На сцяне бачу дыпломы трактарыстам і камбайнёрам, прызнаныя ў гмінным спаборніцтве. За 1988 год дыпломы атрымалі: Міхал Дунец — І месца ў спаборніцтве на найлепшага аператара ратацыйных касілак, Анатоль Засім (муж кіраўнічкі) — І месца на найлепшага аператара камбайна „бізон“ і І месца ў спаборніцтве на найлепшага аператара хімічнай аховы раслін, Лявон Суліма — II месца ў спаборніцтве на найлепшага аператара камбайна.

**А. З.:** — Дыпломы сведчаць аб заслугах і выніках працы трактарыстаў, што залежыць ад практыкі, вопыту, кваліфікацый і выдатнай працы. Найстарэйшаму трактарысту 42 гады, працуе не змяняючы прадпрыемства больш за 20 гадоў. Ёсць і малады працаўнік з няпоўным двухгадовым стажам. Трэба падкрэсліць ініцыятыўнасць і вынаходлівасць Лявона Сулімы. Паказаў гэта яшчэ ў 1987 годзе, калі як толькі што падрыхтаваны камбайнер атрымаў для абслугі стары камбайн. Нягледзячы на дрэнны тэхнічны стан і частыя аварыі машыны, Лявон дайшоў да вынікаў, набліжаных да вынікаў тых камбайнераў, якія працавалі на новых камбайнах.

**А.:** — Ваш ПУМ утрымоўваецца з уласных сродкаў?

**А. З.:** — У папярэдніх гадах баланс быў дадатны, а за 1988 год, хаця былі высокія прыбыткі, вынік адмоўны. Шмат каштавала чышчэнне і легалізацыя размеркавальніка (дыстрыбутара) гаручага, рамонт канторы і сацыяльнага памяшкання, рамонт трактараў і прылад. Цяпер прадукцыйнай працай мусім пагнаць, каб ізноў дайсці да дадатняга балансу.

**А.:** — Дзякуем за размову і жадаем усяго добрага, асабліва добрага здароўя і задавальнення з працы і сямейнага жыцця.

Размову вяла **Аўрора**

---

# САКРАТ ЯНОВІЧ
# У БЕЛАРУСКАЙ КАНАДЗЕ І ДАЛЕЙ

**(17)**

У чыкагскім Музеі навукі і прамысловасці, на сеансе ў незвычайным кіно, праекцыя ў якім, бы ў планетарыі. Прыродазнаўчы фільм: птушкі і рыбы, недзе ля ціхаакіянскага архіпелага... Міжвольна хапаешся за парэнчы крэсла, бо здаецца, што ляціш за альбатросам у жахлівую высь, то апускаешся ў бяздонне паміж каралавымі астраўцамі, дзе акула — зусім побач цябе! — ненажэрна паядае акуляня... І раптам ў гушчавіне джунглі: трупянееш ад утаропленых у твой твар дзікіх зіркачоў пантэры... Гэта для моцных нервамі!

Музей, пра які і не падумалася: сотні тысячаў, калі ўжо і не мільёны экспанатаў, наглядна ілюструючых пачаткі і развіццё ўсякіх галінаў навукі ды тэхнікі, як толькі з'явіўся чалавек на Зямлі. І найноўшыя — касмічныя караблі, прывезеныя з Месяца скальныя абломкі. Гітлераўская падводная лодка і штурмавыя „Штукасы“ з падвешанымі бомбамі (па дзве пад крыламі і адна, большая, пад жыватом машыны). Ёсць і цэлая гаспадарская сядзіба з фігурамі хатняй жывёлы. Трэба не пагонліва хадзіць, каб не ачмурэць ад інфармацыйнага шуму (напрактыкаваўся быў я ў British Museum, у якім у 1980 годзе мала не расхварэўся ад лакомлівага ўспрымання ведаў).

Відэа ў амерыканскім доме перастала быць элітарнай роскашшу. Увечары пускаем сабе „Беларускае вяселле“, падрыхтаванае савецкім тэлебачаннем для адной з кампаній. Інтрыгуючыя сітуацыі „перакручваем“ раз і другі. Вынаходзім падабенствы ў тым вясельным відовішчы, калі жаніўся Рональд жа з Ірэнай... У сямейным крузе можна суткамі сядзець перад „шкляным экранікам“, забыўшыся пра ўсякія праграмы ў эфіры і, быццам у асабістым кінатэатрыку, прасачыць усю гэтую хатнюю кінахроніку. Вось маладая пара перад райскімі варотамі, урачысты бацечка апавяшчае іх мужам і жонкаю, у царкве вокліч радасці і густыя апладысменты... Апладысменты, калі дзіця акунае святар у ваду і хрысціць імем... Адкуль узялося гэтае плясканне ў далоні ў святым месцы? — стаю я аж з Беластоцкага краю і, гэтаксама, успамагаю авацыю пасля формулы шлюбу Дэйны з Яначкам.

Згадаю яшчэ і пра відэазапіс каляднага „прадстаўлення“ беларусаў, наладжанага ў цэнтры Чыкага, у тым жа Музеі. Спадарыня Вера затрымлівае час ад часу выбраны кадр: во гэты — амерыканец, а тая там — латышка, а тут во, са скрыпкаю, паляк Бочак з пазнанскай філармоніі, выконвае „Зорку Венеру“... Важная не нацыянальнасць, а шчырае зацікаўленне беларускай культураю.

...Прыпевам вяртаецца да мяне Данчыкава спяванне „Я ад вас далёка“, пачутае ў стэрэафанізаваным аўце Яканюка, пасля позняга абеду ў польскім рэстаране (у якім не гавораць папольску, а са славянскай пароды кельнеркай шпарчэй паразумеешся на амерыканскім дыялекце). Прыпыніліся мы перад каруселлю руху на магістральным скрыжаванні, пасярод безлічы агнёў вялікагарадскога монстра, і ахапіў мяне нейкі новы смутак, які не ўмею назваць. Было гэта ці не пасля аўтарскай маёй сустрэчы ў сталоўцы Юр'еўскай царквы... На разбудову Беларускага ліцэя ў Гайнаўцы сабраў шэсцьдзесят долараў, збыўшы, між іншым, „Зямлю пад белымі крыламі“ Уладзіміра Караткевіча і альбом „Беларускае шкло“. Засядзеўся з хлопцамі з Беласточчыны. Яны ўжо як бы і развіталіся са сваім бельска-гайнаўскім свецікам, ураслі ў навародзе; іншы раз здасца сяму-таму, што і радзіўся тут ды і нікуды не кратаўся... Адзін з іх, праз тры месяцы пасля, аднак, паступаецца ў маю беластоцкую кватэру, зайшоўшы з просьбаю ад сяброў наконт слоўніка роднай мовы і кніжак. — Нэ знаю, як довго набуду я дома, Шыкаго всэ бачу вокол, за шэрэню нашою, — і, спехам падзякаваўшы за мае дарункі, пайшоў, быццам збаяўшыся разгаварыцца, сам, пэўна, не падазраючы, як многа сказаў тымі рубленымі словамі.

Толькі цяпер колка ўспомніў я, што, столькі прабыўшы ў Амерыцы, не пазваніў Найдзюкам у Лос-Анджэлес і Пятроўскім на Фларыду. А гэта ж цалкам проста ў іх, не цяжэй, чымсьці ў нас — суседу на той самай вуліцы! І нядорага, але маю падсвядомасць, відаць, заклінавалі польскія рахункі за пяціхвілінныя званкі з Беластока ў Нью-Йорк або ў Лондан, пакрываючы якія аддаў амаль палову сваёй месячнай платы!

У панядзелак — трансэкспрэсным аўтобусам з фірменным знакам харта ў гоне — цераз Таледа ў Кліўленд. Пад шэсцьсот кіламетраў праз сем гадзінаў, з падабедкамі ў прыаўтастрадных матэлях. І стрэлку ў ручным гадзінніку мус прасунуць на поўны абарот мінутніка дапераду. Ад Мічыгена да Эры, цераз падставу паўвострава, лічба квадратных якога набліжаная да абсягаў Польшчы. Штораз лаўлю сябе на тым, што Еўропа нам бачыцца чамусьці велізарнай, а сібірны бяскрай Новага Свету не так вельмі... Тым часам усё ў супраціўных прапорцыях: адны Злучаныя Штаты накрылі б яе ўдвая, ад Партугаліі да заходніх правінцыяў Расіі.

**(Працяг будзе)**

хапленнем успамінае „Беларускія бліны“ і танцавальны калектыў „Маланка“. За свой найбольшы поспех лічыць заснаванне гуртка. Яна ўсё марыла, каб „стварыць сваю дзяржаўку беларускіх душ“. Калі ёй гэта ўдалося, у 1971 годзе перастала актыўна дзейнічаць у БГКТ. Ад 1977 года працуе праваднікам заграмічных экскурсій у Гданьску.

У Гданьскім беларускім гуртку завязаліся і сем'і, між іншым, Олі Сапешка і Мікалая Іванюка. Новая дарога жыцця адвяла іх таксама ад актыўнай дзейнасці на беларускай ніве, але і яны вельмі цікава расказвалі мне пра пачаткі дзейнасці гуртка.

Многа гданьскіх актывістаў за мінулае 20-годдзе выехала ў родныя куткі. Часта змяняліся ўлады гуртка. Яго старшынямі былі: **Мікалай Сівіцкі, Мікалай Іванюк, Ян Мацкевіч, Сяргей Новік, Міхась Нядзведзь, Яніна Рыцка, Анна Іванюк.** Цяпер старшыня клуба — **Міхась Куптэль**, патрыёт, якіх мала нават на Беласточчыне.

У Гданьску ўвесь час актыўна дзейнічаюць **Анна Іванюк** і **Алесь Юзафовіч.**

Аня ўсё жыццё ў Гданьску звязала з дзейнасцю ў Беларускім таварыстве. Удзельнічала ў з'ездах БГКТ і цяпер яна — член Галоўнага праўлення. Мне здаецца, што яна заўсёды маладзенькая — столькі ў ёй ахвоты да дзейнасці. Вучыць сваіх дзяцей беларускай мове, спявае ў вакальным калектыве „Жаваранкі“. Яна разбудзіла нацыянальную свядомасць сярод моладзі, якая нарадзілася ў Гданьску. Яе адданасць беларускай справе можа быць прыкладам для многіх, якія не вераць у доўгае існаванне нашай нацыі. Аня бядуе толькі над гэтым, што некаторыя даўнія члены гуртка перасталі ганарыцца тым, што яны — беларусы, і хутка паддаліся асіміляцыі.

Алесь Юзафовіч жыве ў Прушчы Гданьскім. Хаця ён тут ужо 20 гадоў, не забыў роднай мовы. На роднай мове гаворыць не толькі ў клубе, але і ў сваім доме. Не пасаромеўся беларускай мовы таксама і на вуліцы, калі ішлі мы разам на аўтобусны прыпынак. Яго дэвіз: „Не трэба саромецца свайго паходжання“. Алесь заўсёды ў клубе, калі там што-небудзь дзеецца.

Можна пісаць яшчэ аб **Міхасю Куптэлю,** сёстрах **Ані** і **Іры Гаданьчук,** якія, як мала хто з нашай моладзі, адчуваюць сябе беларускамі, **Ірку Лаўрэшуку** — студэнце музычнай школы і многіх іншых.

Гурток на працягу 20 гадоў арганізаваў сустрэчы з беларускімі паэтамі, публіцыстамі, пісьменнікамі, вечарынкі з танцамі, навагоднія балі, навучанне беларускай мове, экскурсіі. Члены гуртка ўдзельнічалі ў грамадскіх пачынах: будавалі дарогу ў Аліве, садзілі лес.

Гурток БГКТ у Гданьску узнік з думкай, каб быць разам, але цяпер існуе не толькі, каб „быць разам“, але каб ведаць, што ў нас і ў нашых дзяцей беларускія душы, хаця мы жывем далёка ад бацькаўшчыны.

**Галена Глагоўская**




*Гданьскія БГКТоўцы ставілі п'есу С. Яновіча „Люцынка-інжынерыха“.*



*Аўтарская сустрэча з Кастусём Бандаруком (першы злева).*

## СЯБРЫ, СЯБРЫ МІНУЛЫХ ГОД...

Сяброў у сваім жыцці меў не абы-якіх. Сярод іх былі палякі, беларусы, рускія, яўрэі. Адны сталі салдатамі — байцамі Чырвонай Арміі, другія — Краёвай Арміі (АК), іншыя сталі партызанамі савецкіх атрадаў. Адзін быў абаронцам Брэсцкай крэпасці, яшчэ іншыя былі ў „беларускай самаахове“ ці беларускай паліцыі. Усе яны былі маладыя, вясёлыя, сталі пазней паважнымі. Тыя, каму давялося служыць у Чырвонай Арміі, пайшлі з фронтам. Абаронца Брэсцкай крэпасці вярнуўся дамоў, хлопцы з Краёвай Арміі апынуліся ў Калузе, але вярнуліся ў Польшчу, сталі інжынерамі, а зараз яны ўжо пенсіянеры. Тыя, што былі ў беларускай самаахове ці паліцыі, адступілі разам з немцамі, трапілі ў палон або загінулі. Калі хто з іх яшчэ не памёр, дык жыве недзе ў Нямеччыне, ЗША ці Канадзе, а можа яшчэ ў іншай краіне. Цяпер яны „эмігранты-здраднікі“. Праўда, гэта супраць радзімы найбольшае злачынства. Чытаючы аб забойствах, здзеках, якія былі ў Савецкім Саюзе, аб гэтых Курапатах, аб ссылках, расстрэлах, аб якіх я не ведаў, але аб якіх яны маглі ведаць, маючы там сваіх сваякоў, знаёмых, якія прапалі без весткі, тады выступілі супраць несправядлівасці, не бачачы, што служаць другому тырану. Мо хацелі мець свой незалежны край з Пагоняй і бела-чырвона-белым сцягам. Мо нагледзеліся і на той польскі патрыятызм, дзе побач быў свой сцяг, арол і гімн. Польшча даравала віну ўсім, нават тым, хто са зброяй у руках выступаў супраць новага ладу. Амністыі былі адна за другой. Хаця ад гэтых „незалежных“ сам я асабіста пацярпеў, лічу, што ў маладосці чалавек найбольш падатны на неразважныя крокі.

Памілуй і прабач, Маці Беларусь, сваім сынам, якія заблудзілі...

**Рышард Бутайла**

цыяналізму. Ён узнікаў аўтаномна, не спадзеючыся на нейкую падтрымку звонку. Каб так было паўсюды ў нас — было б ідэальна. І яшчэ адно: імкненне да нармальнасці. Тое, што беларусу неабавязкова хадзіць у лапцях і есці крупнік. Мы ўсцешыліся, што гэты рух адбываецца тут вясёла. (...)

Перш за ўсё — абмен візітамі. Будзем браць вашы адрасы, мы пакінулі тут свае адрасы. Запрашайце нас, мы будзем запрашаць вас. (...)

**Алеся Сёмуха:** — Можа нейкія пытанні ёсць, бо самой так нейк нязручна пачынаць, тым болей, што ў асноўным Сяргей ужо распавёў...

**Голас з залы:** — Дык скажы, як дзяўчаты ставяцца да беларускай справы?

**Алеся Сёмуха:** — У нас якраз так і атрымалася, што дзяўчат можа нават і болей. У вас нейкія іншыя праблемы, а ў нас дзяўчат багата, і ідуць яны даволі актыўна (!!!)

Палепшылася з мовою, калі раней нехта ў Мінску гаварыў па-беларуску, дык пэўна было: з вёскі або пісьменнік. Цяпер існуе і трэцяя альтэрнатыва: мабыць, з „Талакі“.

**Голас з залы:** — А як у вас з адраджэннем духоўнага, рэлігійнага жыцця, з праваслаўнай царквою?

**Алеся Сёмуха:** — Царква праваслаўная пакрысе пачынае паварочвацца да нас тварам. Мітрапаліт Філарэт афіцыйна звярнуўся да беларускай інтэлігенцыі з прапановаю перакладу расейскага кананізаванага тэксту Бібліі на беларускую мову, з тым, каб праз нейкі час перавесці багаслужэнне на беларускую мову. Наколькі я ведаю, у духоўных семінарыях пачалі курс беларускай мовы. (...)

І яшчэ хачу сказаць: адна з галоўных нашых мэтаў: стварэнне сапраўднай інтэлігенцыі. У нас інтэлігенцыя ёсць, але яна дужа кволая. Мы ўзяліся за духоўнае адраджэнне, каб узнавіць інтэлектуальны патэнцыял рэспублікі. (...)

**Голас з залы:** — Ці ёсць магчымасць увесці беларускую мову ў адміністрацыю, каб гэта было ўведзена згары, а не знізу, ад „Талакі“?

**Алеся Сёмуха:** — Справа ў тым, што ў пасляваенны час на Беларусі ўзнікла складаная сітуацыя. Беларусь жа была пад акупацыяй, а паводле тагачасных палітычных тэорый, тэрыторыі, якія знаходзіліся пад акупацыяй, не падлягалі даверу. На цэнтральныя пасады ў рэспубліцы назначаліся людзі адусюль, толькі не з Беларусі. І таму склалася цэлая бюракратычная сістэма (а яна ж пераемная) — не беларуская. Нацыянальны склад уладаў у гарадах рэспублікі не адпавядае нацыянальнаму складу насельніцтва. І таму яны ставяцца адмоўна да моўнага пытання. Яны яшчэ наогул не навучыліся таго, чаго ім трэба для выконвання іхніх абавязкаў, а тут яшчэ і мову трэба вывучаць. (...)

Цяпер улады вылучаюць лозунг дзяржаўнага двухмоўя: для беларускай мовы гэта, практычна, смерць. Таму, што расейская мова ў рэспубліцы і так дзяржаўная, і людзі з горада не будуць вывучаць беларускай мовы, калі ім можна будзе афіцыяльна ва ўстановах звяртацца па-расейску. (...)

**Голас з залы:** — Апошнім часам шмат гаворыцца пра нацыянальную сімволіку...

**Сяржук Вітушка:** — На Сойме ў Вільні мы былі з бела-чырвона-белымі сцягамі, кожны ўдзельнік меў значок з нацыянальнымі колерамі. З такім значком я нядаўна здаваў экзамен па гісторыі. Яшчэ паўгода назад я з такім значком атрымаў бы двойку... А цяпер нічога, цалкам нармальна.

Ну, а з Пагоняй гэта зусім абсурдная сітуацыя. Выява Пагоні была ў нас і раней. Але нашай бюракратыі трэба было знайсці нейкую зачэпку. Таму і прычапілі ёй фашыстоўскае мінулае. (...) Сімвалы ж не вінаваты, што хтосьці імі спекулюе. (...)

Найлепшай публікацыяй на гэту тэму быў артыкул Яна Райніса ў „ЛіМе“, дзе ён растлумачыў, каму выгадна нагнятаць такую істэрыю адносна нацыянальных сімвалаў. Калі „Звязда“ друкуе „Чаго хочуць талакоўцы?“, а знізу буйным планам фотаздымка з гітлераўцамі і з Пагоняй, дык уражанне ствараецца даволі адназначнае: ну, вядома, чаго яны хочуць. (...) „Звязда“ пяць разоў друкавала матэрыялы па нацыянальнай сімволіцы, а „Талапэ“ ні разу слова не далі. Вось такі ў нас плюралізм (...).

# ЗОРКА
## СТАРОНКА ДЛЯ ДЗЯЦЕЙ



*Васьмікласнікі з Дубін са сваёй настаўніцай Вольгай Гарустовіч.* Фота Я. Чэрнякевіч.

## У ДУБІНАХ

Першыя месяцы новага года ў школе ў Дубінах былі вельмі насычаныя цікавымі падзеямі. І не толькі таму, што гэта канец першага і пачатак другога паўгоддзя, але перш за ўсё ў сувязі з надыходам сезону шматлікіх вучнёўскіх конкурсаў. Прайшлі ўжо прадметныя гмінныя конкурсы, цяпер дзеці рыхтуюцца да беларускіх конкурсаў — дэкламатарскага і песні. Адбываюцца розныя спартыўныя спаборніцтвы паміж школамі, гмінамі.

У прадметным конкурсе па рускай мове дзеці з Дубінскай школы занялі ўсе тры першыя месцы ў гміне — Лена Філіповіч — першае, Эля Плева — другое, а Мажэнка Сцепанюк — трэцяе месца. Першае месца ў гміне ў геаграфічным конкурсе заняў Юрка Герасімюк, хоць ён яшчэ толькі ў шостым класе.

Добрых вынікаў дабілася школа і ў спорце. Па бегу на 3 км школьныя каманды хлопцаў і дзяўчат занялі другое месца, а найлепшымі бегунамі ў школе з'яўляюцца васьмікласнікі Крыся Шыманюк і Грэсь Анішчук, а таксама сямікласніца Эля Аверчук. Тая ж Эля Аверчук разам з Асяй Кісялеўскай занялі другое месца ў настольным тэнісе.

А Грэсь Анішчук яшчэ найлепшы школьны мастак. Яго малюнкі ўпрыгожваюць школьную выстаўку, а калі трэба зрабіць у школе нейкія дэкарацыі — ён першы памочнік. Яго малюнкі чытачы змогуць пабачыць у бліжэйшых нумарах „Зоркі“.

Школа ў Дубінах заўсёды ўдзельнічае ва ўсіх вучнёўскіх беларускіх конкурсах. І гэта перш за ўсё дзякуючы шматгадовай настаўніцы беларускай мовы Вользе Гарустовіч. 32 гады прапрацавала яна ў школе ў Дубінах. Колькі сёння ўжо дарослых людзей можа з удзячнасцю ўспомніць яе ўрокі роднай мовы! Такое не забываецца! Цікавыя, захапляючыя размовы з вучнямі аб пачуцці да ўсяго роднага, аб адносінах да спадчыны нашых дзядоў і бацькоў, пазнаванне роднай літаратуры, гісторыі, збіранне і экспанаванне ў класе прадметаў народнага вырабу — усё гэта ад шчырага сэрца і з думкай аб будучыні. Шмат гадоў існуе ў школе беларускі кабінет, а ў ім — этнаграфічны куток са старымі экспанатамі нашай культуры — вышываныя ручнікі, жаночыя блузкі, сурвэткі, гліняныя і драўляныя вырабы.

У школе працуе таксама гурток жывога мастацкага слова. Вядзе яго таксама настаўніца беларускай мовы. Гэта дзякуючы працы гэтага гуртка школа магла пабачыць пастаноўкі беларускіх сцэнак для дзяцей (дарэчы, яны таксама друкаваліся ў „Зорцы“) „Праведалі“, „Як я быў доктарам“ і іншыя. І сёння дзеці ўспамінаюць, як бліскуча выступіў у галоўнай ролі ў п'есе „Праведалі“ Томэк Чурак. Цяпер да беларускага дэкламатарскага конкурсу рыхтуюцца Даротка Попка і Аня Аксенцюк.

На сустрэчы з „Зоркай“ дзеці расказвалі аб тым, як цікава ў іх ідзе перапіска з дзецьмі з Беларусі, як спадабаліся ім экскурсіі ў Варшаву і Беласток, як весела было пры вогнішчы, арганізаваным у лесе з нагоды дня турыстыкі, дзе і конкурс быў, і забавы, і печаныя над вогнішчам каўбаскі. Адбыўся ў школе і конкурс правілаў дарожнага руху, і правіл супрацьпажарнай аховы, ды і шмат іншага цікавага. Ці ж аб усім раскажаш?

Галоўнае — усе дзеці адчуваюць, што ў школе жыццё ідзе поўным ходам, цікава і весела.

А „Зорцы“ было прыемна, што тут ёю цікавяцца, рэгулярна чытаюць, ды і самі дзеці тут штодзень карыстаюцца роднай мовай у размове паміж сабою і з дарослымі, што гэта іх родная мова.

**Яніна Чэрнякевіч**

**Віктар Швед**

## ЖАНОЧЫ ДЗЕНЬ

**У нашай дружалюбнай хаце**
**Жыве аж некалькі жанчын:**
**Бабуля, мама, сястра Каця,**
**Тата і я, Пятрусь, з мужчын.**

**Вялікае ў нас сёння Свята —**
**Жаночы Міжнародны Дзень.**
**Хоць розных спраў у нас багата —**
**Нам ззяе шчасцейка прамень.**

**Усё мы зробім з татам самі,**
**Парадак, зварым нат абед.**

**Мы выручым бабулю, маму,**
**Ад абавязкаў іх, як след.**

**Сваіх Жанчын уславім гэтак,**
**Як толькі зможам, на ўвесь свет!**
**Прыгожых віншавальных кветак**
**Мы з татам прынясем букет.**

**НА ШКОЛЬНУЮ СЦЭНУ**

## У КРАІНЕ КАРАЛЕВЫ АВАРЫІ



**Георгій Марчук**
**Вершы У. Някляева**

**Карціна шостая**
**(Пачатак у папярэдніх нумарах)**

*Краіна дарожных знакаў. Знакі-Стрэлкі з падзорнымі трубамі ў руках.*

Адна Стрэлка. Бачу! Гэта яны ляцяць!

Знакі-Стрэлкі. Ваша свяцільства, сюды, калі ласка, сюды! Яны ляцяць!

*Уваходзіць Светафор*

Светафор. Дзе?

Адна Стрэлка. Вось.

*З'яўляюцца Ясь і Яніна.*

Ясь. Добры дзень усім вам.

Яніна. Добры дзень, ваша свяцільства.

Светафор. Добры дзень, смелыя героі. Віншую вас з перамогай і вяртаннем у краіну дарожных знакаў.

Знакі-Стрэлкі. Слава Ясю і Яніне!

Яніна. Ваша свяцільства, непрыемная навіна.

Светафор. Цікава, якая гэта навіна?

Яніна. Каралева Аварыя і яе служкі Крумкач, Няшчасны Выпадак, Трагічная Сітуацыя заўтра раніцою надумалі...

Ясь. Калі хлопчыкі і дзяўчынкі выйдуць на вуліцу і пойдуць у школу адны, без бацькоў...

Яніна. Збіць іх усіх праезджымі машынамі, аўтобусамі, матацыкламі.

Светафор. Дзякую вам, сябры, што папярэдзілі. Цяпер трэба паспець вывучыць з усімі вамі законы бяспекі руху. Ясь, дай сюды кнігу.

Ясь. Ваша свяцільства, вінаваты я, не захаваў кнігу. Згубіў.

Яніна. Амаль ля самай мяжы.

Знакі-Стрэлкі. Як жа так? Як жа так?

Ясь. Нечакана наляцеў вецер, дарогу скаваў галалёд.

Яніна. Служкі Аварыі даганялі нас...

Ясь. Мы ледзь паспелі пераскрочыць мяжу Краіны дарожных знакаў.

Ясь, Яніна *(разам)*. Даруйце нам, паважаны Светафор.

Светафор. Калі кнігу вы сапраўды згубілі на дарозе і яна трапіла да каралевы Аварыі, нам палохацца няма чаго. Загадваю! Усім, усім, усім! Агледзець кусты, кожнае дрэва і ўсё наўкол! Уключыць зялёнае святло пошуку!

*Музыка.*

*Знакі-Стрэлкі і Светафор выходзяць. Застаюцца толькі Ясь і Яніна. Раптам з'яўляецца Няшчасны Выпадак з самакатам.*

Няшчасны Выпадак.

(Працяг на стар. 10)

# У краіне каралевы аварыі



(Працяг са стар. 9)

Ясік, даражэнькі, давай пакатаемся.

*З'яўляецца Трагічная Сітуацыя з роварам.*

Трагічная Сітуацыя. Янінка, давай мы з табой пакатаемся.

Яніна. Мы спачатку ў Светафора спытаемся, ці можна.

*Уваходзіць Аварыя і Крумкач.*

Аварыя. Навошта ў яго пытацца? Вядома і так. На ўсё будзе адзін адказ: нельга, забаронена, не дазволена. *(Дастае кнігу).* Вось, калі ласка. Пераходзіць вуліцу на чырвоным святле не дазволена. Перавозіць на ровары пасажыраў забаронена, катацца на лыжах, санках, каньках на вуліцы — нельга.

Няшчасны Выпадак. Што доўга думаць. Сядайце на самакат і ровар — ды на самую сярэдзіну вуліцы.

Ясь *(Яніне).* Яніна, я пазнаў іх. Па голасе. Гэта Аварыя і ле служкі. Бяжы па Светафора, а я іх як-небудзь затрымаю.

*Яніна выходзіць.*

Аварыя. Прынцэса Сітуацыя, сачы за ёй. І пры выпадку — па галаве.

Трагічная Сітуацыя. Слухаюся. *(Ідзе за Янінай).*

Аварыя *(Крумкачу).* А з гэтым мы ў кошкі-мышкі згуляем. Крумкач, нясі торбу. *(Да Яся).* Сядай, Ясь, пакатаемся.

Ясь. А самакат ваш на ходу?

Няшчасны Выпадак. Канечне. Толькі што купілі.

Ясь. Каб хто-небудзь з вас паказаў, як ехаць.

Няшчасны Выпадак. Калі ласка. Спачатку адной нагой, потым другой.

Ясь. А ён не рыпіць?

Аварыя. Не, усё змазалі. Сядай і едзь сабе на здароўе. Ды хутчэй толькі.

*Крумкач і Няшчасны Выпадак падганяюць Яся хутчэй ехаць. Нечакана з'яўляецца Трагічная Сітуацыя.*

Трагічная Сітуацыя. Каравул! Сюды ідзе Светафор!

Аварыя. Усім заставацца на месцах! Светафор не ведае нас у твар. Перачакаем, накінем торбу на галаву Ясю і Яніне... а там, на мяжы, нас чакае пані Пагоня.

*З'яўляецца Светафор і Яніна.*

Ясь *(да Светафора).* Ваша свяцілельства, вы не знайшлі кнігу?

Светафор. Не. Скажы, Ясь, праўда тое, аб чым паведаміла Яніна?

Ясь. Праўда. Яны тут. Я іх усіх пазнаў па голасе. Шкада толькі — кнігі няма.

Яніна. Як жа нам папярэдзіць хлопчыкаў і дзяўчынак, ваша свяцілельства?

Аварыя *(сваім).* Не паспеюць папярэдзіць! Кніжачка ў нашых руках.

Светафор. Ёсць адзінае выйсце. Хто з вас можа па памяці пераказаць правілы дарожнага руху?

Ясь. Я паспрабую.

Яніна. А я дапамагаць буду.

Светафор. Я веру вам, мае памочнікі! Цяпер загадваю: у кожнай кватэры ўключыць тэлевізары!

Яніна. Нас будуць паказваць па тэлебачанні?

Аварыя *(сваім).* Не веру, каб яны без кнігі ведалі законы. Без панікі, мае памочнікі.

Светафор. Пачынаем. Уключайце.

*Музыка.*

*З'яўляюцца знакі-стрэлкі.*

**Заканчэнне будзе.**

## ПАЗНАЁМІМСЯ

Віця Гаўрылюк, вучань шостага класа, і яго сястра Міраслава Гаўрылюк, вёска Грабавец, 52, пошта 17-204 Дубічы-Царкоўныя, Беластоцкае ваяводства.

* ✲ *

БССР, 220036, г. Мінск-36, вул. Купрыянава, 7, кв. 34. Юля Кучук. 5 клас.

* ✲ *

БССР, 220064, г. Мінск-64, вул. Ландэра, 68, кв. 18. Наташа Пятровіч. 5 клас.

* ✲ *

БССР, 220064, г. Мінск-64, вул. Ландэра, 68, кв. 24. Наташа Балабановіч. 6 клас.

* ✲ *

БССР, 220075, г. Мінск-75, вул. Сяліцкага, 9, кв. 66. Ала Сімановіч. 7 клас.

* ✲ *

БССР, 220060, г. Мінск-60, вул. Р. Люксембург, 165, кв. 11. Каця Шайхутдзінава, 5 клас.

* ✲ *

БССР, 220036. г. Мінск-36, вул. Волаха, 8, кв. 110. Аксана Васкабоева. 5 клас.

## ЗАБІЯКА

**Вершык пра суседавага пеўня**

По падворку певень ходзіць,  
За сабою курэй водзіць.  
Певень грозны, забіяка,  
Яшчэ горшы, чым сабака.  
Усім чужым на голаў скача,  
Як дзіця — дык тое плача.  
Са старымі б'ецца ўпарта —  
Абмінуць дурнога варта.  
Курэй гэтак даглядае —  
Хто чужы — усіх ганяе.

Не хадзіце, дзеткі, там!  
Хай разбойнік ходзіць сам!

**Янка Беразавец,**  
**Курашава.**

## „ЗОРЧЫНА“ ПОШТА.

**Алесь Шушкевіч з Лепеля.** — Тваё пісьмо „Зорка“ пераслала, як ты прасіў, да Міхаські Мароза ў Відава, што каля Бельска. Спадзяемся, што Міхаська табе ўжо напісаў пісьмо.

**Сяргей Зінкевіч са Смілавіч.** — Дзякуем Табе за прысланую ў „Зорку“ адгаданку. Магчыма, што надрукуем.

## Пішуць школьнікі

### ДОБРЫ ДЗЕНЬ, ДАРАГАЯ „ЗОРАЧКА“!

Пішу Табе хлопец з Беларусі Павел Кананові́ч. Я вучуся ў 9 класе 152 мінскай школы. Раней я толькі ведаў пра газету „Ніва“, але ні разу яе не бачыў і не чытаў. Але калі я ехаў з роднай для мяне маленькай вёсачкі Чашы ў Мінск, на прыпынку ў Дзяржынску купіў вашу газету. Як добра, што ў Польшчы ёсць такая газета для беларусаў! Асабліва мяне зацікавіла ваша старонка для дзяцей „Зорка“. Вялікае дзякуй вам за тое, што вы робіце для выхавання дзяцей беларусаў. Я хацеў бы папрасіць „Зорачку“, каб яна надрукавала мой адрас. Хацеў бы перапісвацца з любым, хто мне напіша. Загадзя дзякую.

З паважаннем  
**Павел Кананові́ч.**  
БССР, 220094, г. Мінск, пр. Ракоўскага, 12, к. 1, кв. 207.

## Вучнёўская творчасць

### ДАРАГАЯ „ЗОРКА“

Я вучуся ў трэцім класе Пачатковай школы ў Дубічах-Царкоўных. Вельмі люблю родную мову. Маем яе чатыры гадзіны ў тыдзень. Я вельмі люблю выдумляць рыфмаванкі. Пасылаю табе некалькі. Можа, яны камунебудзь спадабаюцца.

**Люся Леанюк з Руткі**

### РЫФМАВАНКІ

* ✲ *

*Ляцеў бусел па салому*  
*Зламаў ногу па-старому.*

* ✲ *

*Па двары пава хадзіла —*  
*Сваё пер'е ўсё згубіла.*

* ✲ *

*Маленькі сыночак*  
*Пасадзіў садочак.*

* ✲ *

*Хадзіў дзядуля да ракі*  
*Памыць свае хадакі.*

### ЗІМОВЫ ДЗЕНЬ

*Мароз. — Зімовы дзень настаў,*  
*Сонца засвяціла.*  
*Я раніцой на лыжы стаў:*  
*І люба мне, і міла!*

*Мароз марозіць усё мацней,*  
*Але я не баюся.*  
*Я ўсміхаюся зіме*  
*І радасна качуся.*

**Ігар Маскалік, 6 клас.**  
**Баранавічы**

Мікалай Раманіка

## КАРАБЕЛЬ „МАМА“

З добрай ласкі вясны і сонейка загаварылі ручайкі. Яны спяшаліся ў даліны, пабліскваючы жывым серабром. Зашумелі галкі, густа развешваючы на старых таполях гнёзды.

У светлавалосага Дзімкі таксама вясновы настрой. З хаты ён вылецеў нібы на крылах. Бегаў, кідаў трэсачкі ў ваду, якая бурліла ў каляінах.

З суседняй хаты выйшаў дзядзька Платон. Ён доўга плаваў на караблях. А цяпер вярнуўся ў роднае сяло.

— Трэсачкамі забаўляешся? — спытаў дзядзька Платон і прапанаваў: — Давай лепш, Дзімка, змайструем караблік і адправім яго ў вялікі свет.

— Я не ўмею рабіць караблікаў, — прызнаўся Дзімка.

— Давай паспрабуем разам. Нясі, што ў цябе ёсць.

Дасталі кавалак кары, паперу, ніткі, дзве палачкі — для мачтаў. За справай не заўважылі, як і вечар надышоў. Самі радаваліся, што нарэшце закончылі караблік. І паказвалі яго ўсім, хто заходзіў у Платонаву хату.

— Назву яму трэба прыдумаць, — сказаў дзядзька Платон, пакручваючы вусы. — Усе караблі плаваюць пад сцягам і маюць назву.

Дзімка падумаў хвілінку і выгукнуў:

— „Мама“! Вось як будзе называцца наш караблік.

Плаваў дзядзька Платон, бадай, па ўсіх морах і акіянах, шмат караблёў сустракаў. Але ні на адным не бачыў назвы „Мама“. Ён ласкава паглядзеў на Дзімку, пахваліў:

— Цудоўна!

І чырвонай фарбай вывеў на карабліку чатыры літары.

Ранкам дзядзька Платон і Дзімка ўрачыста вынеслі караблік на вуліцу. Сонца свяціла ярчэй, чым учора, шпарчэй імчалі ручаі ў раку, што затапіла шырокія лугі і стала сапраўдным морам.

Асцярожна спусцілі караблік на ваду. Ён трохі пакружыўся на месцы і, падхоплены плынню, панёсся ўдалечыню.

Дзядзька Платон прытуліў Дзімку да сябе, і яны доўга глядзелі ўслед карабліку. Бываламу мараку ўяўляўся вялізны карабель пад сцягам з цудоўнаю назваю — „Мама“. Карабель-асілак лёгка разразаў акіянскія хвалі. А вёў яго смелы капітан Дзмітрый — дзядзькаў сусед Дзімка.

**З украінскай мовы пераклаў**  
**М. Валошка**

## А-Д-Г-А-Д-А-Н-К-А




Які з гэтых ключоў будзе падыходзіць да намаляванага замка?



Адрас рэдакцыі: 15-950 Białystok, ul. Wesołowskiego 1, „Зорка“.

